Год II Чацьверг 5 студня 1922 г. № 3 (13)

## Далоу здраднікоу! Далоу шаптуноу Масквы і Бэрліна!

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2.
Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

Цана нумару 20 марак.
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Сялянскі Беларускі Зьезд, Заходняй Беларусі

### у Вільні 10-13 сьнежня 1921 года.

На Зьездзе былі прысутны прадстаўнікі Заходняй Беларусі, а так сама прыбылі прадстаўнікі Закардоннай Беларусі, якая мучыцца пад няволяй маскоўскіх камуністаў.

Зьезд выняс давер'е Краёвай Сувязі даручыў ёй стаяць на чале ўсяго беларускага жыцьця, як палітычнага, так эканамічнага і культурна-прасьветнага.



1) Старшыня З'езду П. Аляксюк, 2) Віцэ-Старшыня Д-р Паўлюкевіч; 3) Сябра Прэзыдыуму сялянін Маркевіч; 4) Сэкрэтар Бэкіш; 5) Старшыня Цэнтральнага Камітэту Краёвай Сувязі—Вацлаў Пупка.

# Ашмянчукі!

## Ваш Беларускі сялянскі спісак па Ашмянскаму павету № 6.

За гэты спісак усе беларусы: каталікі і праваслаўныя, старыя і маладыя, мужчыны і жанкі — павінны галасаваць 8 студзеня г. г.

Людзі, пастаўленыя у гэтым спіску — вашы сялянскія сыны, якія ня прададуць вас нашым ворагам.

Гэтыя людзі будуць у Сойме, перад усім сьветам дабівацца: 1) Каб зямля палітая вашай кроўю і потам — як найхутчэй была перададзена вам, а у першую чаргу, беззямельным і малазямельным; 2) Каб у нас быў закон і парадак і каб ніхто не важыўся паневярацьць нашы правы, як беларуса і як чалавека; 3) Каб усім пацярпеўшым ад вайны — далі дапамогу грашыма, лесам, насеньням, жывёлай і інш.; 4) Каб у нас было даволі урадавых школ; 5) Каб Урад направіў дарогі, масты, каб залажыў бальніцы і аптэкі, каб дапамог завясьці добрыя гаспадарскія машыны і прылады і інш., а так сама, каб нам больш ніколі не пагражала бальшавіцкая навала маскоўскіх грабежнікаў.

Усё гэта патрэбна ня толькі для нас самых, але і для нашых дзяцей, для нашых ўнукаў, для нашага будучага пакаленьня.

Дзеля гэтага наш абавязак, наша павіннасьць, пасылаць у Сойм сваіх лепшых людзей.

Галасуйце усе За Ваш Беларускі Сялянскі спісак № 6.

**Зямлю і абарону сялянству дасьць толькі спісак № 6.**

*Беларускі Выбарчы Камітэт*

*Ашмянскага Вокругу.*

# Дзень выбарау - дзень грамадзянскай павіннасьці!

## Беларускі Сялянскі спісак № 6

### Кандыдатау у Віленскі Сойм, выстауляных у „Краевай Сувязі“ па Ашмянскаму выбарчаму Вокругу.

1. АЛЯКСЮК ПАВЭЛ. Сялянін вёскі Тальмінава, Ашмянскага павету; праўнік, вядомы беларускі дзеяч, многа працаваўшы на ніве беларускага адрадженьня, вядомы абаронца правоў беларускага селянскага народу.

2. КАРЭНДА МІХАЛ, Сялянін вёскі Крыванцы Граўжыскай гміны, Ашмянскага павету,—беларускі дзеяч.

3. БУТКЕВІЧ ПЕТР, 31 год. Сялянін мястэчка Жупраны, Ашмянскага пав,—сьвядомы і шчыры беларус і каапэратар.

4. КАМАРОУСКІ ФЕЛІКС, 60 гадоў. Сялянін мястэчка Крэва Ашмянскага павету, беларус.

5. СУБАЧ ФРАНЦІШАК, 29 гадоў. Сялянін мястэчка Дзевенішкі, Ашмянскага пав. Сьвядомы беларускі працаўнік.

6. ТАРУСЕВІЧ ІГНАТ, 43 гадоў. Сялянін м. Гальшаны, Ашмянскага павету.

7. САПАЧ СТЕФАН, 35 гадоў. Сялянін вёскі Яковічы, Беніцкай гміны, Ашмянскага павету.

8. РОДЗКА АНДРЭЙ, 65 гадоў. Сялянін вёскі Яковічы, Беніцкай гміны, Ашмянскага павету.

9. ЧЫЖЭУСКАЯ МАРЫЯ, 22 гадоў. Сялянка вёскі Свірыдовічы, Смаргонскай гміны, Ашмянскага павету, вучыцельніца.

10. СТРЫГА АЛЕКСАНДР, 25 гадоў. Сялянін вёскі Лудзінава, Крэйскай гміны, Ашмянскага павету.

Усе беларусы Ашмяншчыны. як адзін, у дзень выбараў, ў нядзелю 8-га студня, павінны йсьці на выбары. Каб ніхто ў гэты дзень не заставаўся дома і ня спадзяваўся, што „абыдзяцца там і бяз яго!

Усе, хто хоча шчасьлівай долі сваей Бацькаўшчыне, павінны галасаваць за свой беларускі сьпісак **№ 6**.

Усе, хто хоча дабра сялянскаму народу, павінны падаваць свае галасы за сялянскі сьпісак **№ 6**.

Толькі ад сваіх праўдзівых беларускіх сялянскіх прадстаўнікоў сялянін-беларус можа спадзявацца абароны сваіх правоў!

## КАМАЙЦЫ!

### Ваш Беларускі сялянскі спісак па Камайскаму вокругу № 5.

За гэты спісак усе беларусы: каталікі, праваслаўныя і старавэры, маладыя і старыя. мужчыны і жанкі — павінны галасаваць 8 студзеня г. г.

Людзі пастаўленыя у гэтым спіску — вашы сялянскія сыны якія не прададуць вас нашым ворагам.

Гэтыя людзі будуць ў Сойме, перад усім сьветам дабівацца: 1) Каб зямля палітая вашай кроўю і потам — як найхучэй была перададзена вам, а у першую чаргу, беззямельным і малазямельным; 2) Каб у нас быў закон і парадак і каб ніхто не важыўся паневяраць нашы правы, як нацыянальныя. так рэлігійныя і агульна грамадзянскія; 3) Каб усім пацярпеўшым ад вайны — далі дапамогу грашыма, лесам, насеньнем, жывёлай і інш.; 4) Каб у нас было даволі урадовых школ; 5) Каб Урад направіў дарогі, масты, каб залажыў бальніцы і аптэкі, каб дапамог завесьці добрыя гаспадарскія машыны і прылады і інш., а так сама, каб нам больш ніколі не пагражала бальшавіцкая навала маскоўскіх грабежнікаў.

Усё гэта патрэбна ня толькі для нас самых, але і для нашых дзяцей, для нашых ўнукаў, для нашага будучага пакаленьня.

Дзеля гэтага наш абавязак, наша павіннасьць, наслаць у Сойм сваіх лепшых людзей.

Галасуйце ўсе За Ваш Беларускі Сялянскі спісак № 5.

## Землю і абарону сялянству, дасьць толькі спісак № 5

*Беларускі Выбарчы Камітэт*

*Камайскага Вокругу.*

## Беларускі Сялянскі спісак № 5.

Кандыдатаў ў Віленскі Сойм, выстаўляных „Краёвай Сувязью“ па Камайскаму выбарнаму Вокругу.

1. ШЫШКОУ ВАСІЛЬ. Вядомы беларускі дзеяч, рэдактар газэты „Jednaść“.

2. БЭКІШ ЯНКА. Сялянін, вучыцель; сябра беларускай партыі „Сялібнікі“; вядомы беларускі дзеяч ў справах эканамічных і культурна-прасьветных.

3. МІХАЙЛАУ ХВЕДАР. Сялянін вёскі Оцкевічы, Сьвенцянскага павету сьвядомы геларус.

4. ЦЬВІЛЭНЬ МАРЦІН. Сялянін вёскі Мунцовічы Сьвенцянскага павету сьвядомы беларус.

5. БАРСУКОУ ВАСІЛЬ. Сялянін вёскі Крукі, Гаўдуцішскай гміны, Сьвенцянскага павету, беларус.

Усе беларусы Камайскага Вокругу, як адзін, ў дзень выбараў ў нядзелю 8-га студня, павінны ісьці на выбары; каб ніхто ў гэты дзень ня заставаўся дома і ня спадзяваўся, што „ абыдзяцца там і бяз яго,,!

Усе, хто хоча шчасьлівай долі сваей Бацькаўшчыне, павінны галасаваць за свой беларускі сьпісак № 5!

Усе, хто хоча дабра сялянскаму народу, павінны падаваць свае галасы за сялянскі сьпісак № 5!

Толькі ад сваіх праўдзівых беларускіх сялянскіх прадстаўнікоў сялянін-беларус можа спадзявацца абароны сваіх правоў!

*Вільня, 5 Студзеня 1922 г.*

Новая страніца гісторыі адчынілася.

Народ беларускі ачнуўся. Падняў свой нацыянальны сьцяг і пад чырвона-белай Пагоняй ідзе да вызваленьня сваей Бацькаўшчыны.

Ад нас, нашага разуменьня важнасьці сёньняшняга дня, залежыць хутчэйшае прыбліжэньне таго часу, калі споўняцца мары лепшых сыноў беларускага народу, якія цярпелі, уміралі і кроўю плацілі за будучую волю Беларусі.

Дзень 8-го студня, дзень выбараў ў Віленскі Сойм, гэта адзін з крокаў, які зближае нас да гэтага вялікага кліча—„Вольная Бацькаўшчына!“

Беларускія сяляне ў гэты дзень павінны сказаць усяму сьвету, што яны не рабы і мужыкі, а вольныя грамадзяне вольнага краю, якія чуюць сябе беларусамі і змагаюцца за Беларусь.

Хто з беларусаў ня выпаўніць у гэты дзень сваей грамадзянскай павіннасьці, хто ня пойдзе да выбарчай урны і ня падасьць свайго голасу за выбарчы сьпісак, няхай памятае, што яго ўласнымі рукамі кладзецца адно лішняе зьвяно да тых кайданоў няволі, якія так ахвоча гатовы нам накінуць нашы ворагі.

✦✦✦✦

## Вялікія беларускія народныя сабраньня.

### У Ашмяне.

1-га студня гэтага году ў салі народнага тэатру у Ашмяне адбылося вялікае беларускае сабраньне, на якім былі прысутнымі прадстаўнікі ўсіх, нямаль, гмін Ашмянскага павету.

Саля ня магла зьмесьціць ўсіх сабраўшыхся. Адчыніў сход мясцовы беларускі дзеяч п. Ян Тарчэўскі, які шчыра вітаючы сабраўшыхся, выказаў думку аб важнасьці нашага учасьця ў выбарах да Віленскага Сойму і канешнасьці галасаваньня толькі за беларускія сялянскія сьпіскі. Галоўны выбарчы Камісар Краёвай Сувязі п. Адам Курыловіч ахарактэрызаваў значэньне прысутнасьці беларускіх сялянскіх сыноў ў Віленскім Сойме і шкоды, якая ідзе ад устрыманьня ад учасьцьця у выбарах.

У гарачай прамове п. Вацлаў Пупка выказаў ўсю вялікую шкадлівасьць і цёмную правакацыйнасьць работы людзей, называючых сябе беларусамі і выступаючых ад імяні Нацыянальнага Камітэту, ўраду Ластоўскага і партыі сацыялістаў - рэвалюцыянераў. „Гэтыя людзі нясуць ня волю, а найгоршую кабалу, Табе, Беларускі Народзе! Прыкрываючыся пекнымі лёзунгамі, яны стараюцца прыкрыць тую гнусную працу, ніці якой ідуць з Бэрліна, нядвузначна вядуць нашу старану да маскоўска - бальшавіцкага пекла“.

З вялікай праграмнай прамовай выступіў П. Аляксюк, які зьяўляецца першым кандыдатам

